Год II. — № 27. Пятніца, 8-га ліпня (юля) 1921 г. Цана нумару 10 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІИ БАГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, АДАМ ВІТ, ЗВОНЧЫК, КАСТУСЁНАК, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, М. К-Ч., ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

**Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.**

Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.

Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, заграніцу 250 п. марак.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя паведамляе паважаных чытачоў, што

**„Наша Думка“ даходзіць у Амэрыку.**

**Хто мае знаёмых, ці сваякоў у Амэрыцы,**

можа праз нашу газэту падаць ім аб сабе **ВЕСТКУ**, дзеля якой мэты намі будзе заведзены асобны аддзел на шпальтах „Нашай Думкі“.

## Бліжэй да разьвязкі.

На нядаўняй Жэнэўскай конфэрэнцыі Лігі Народаў зроблены вельмі важныя пастановы аб занятай цяпер польскімі войскамі *тэрыторыі Віленшчыны і Горадзеншчыны*, якая па Літоўска-бальшавіцкай умове 12 ліпня 1920 году аддадзена была бальшавікамі Ліцьве.

Сябрамі Лігі Народаў *аднагалосна* прыняты, паміж іншым, гэткія пастановы:

I. Паступовае выключэньне з арміі Жэлігоўскага элемэнтаў, не паходзячых з Цэнтральнай (Сярэдняй? Рэд.) Літвы. *Выключэньне гэта мае распачацца 15 ліпня*, каб магло скончыцца да 1 верасьня.

II. *Урадоўцы*, якія не паходзяць са спорнай тэрыторыі, так сама *павінны быць вывезены*.

III. На спорнай тэрыторыі арганізуецца *міліцыя* з 5.000 чалавек пяхоты і 800 чал. кавалерыі, якая *падпарадкаўваецца кантрольнай Камісіі Лігі* Народаў.

IV. Аружжа і амуніцыя, *правышаючыя патрэбы гэтай міліцыі*, павінны быць усунуты з тэрыторыі Сярэдняй Літвы у той самы тэрмін (да 1 верасьня).

V. Літоўская армія павінна адыйсьці на месца свайго пастою ў мірным часе. Армія гэта падлягае лічбеннаму зьмяншэньню у вышэй акрэсьленым тэрміне.

VI. Рада Лігі Народаў кліча абедзьве стораны ўзнавіць консулярныя зносіны і дарожную комунікацыю. Вайсковая мілітарная камісія Л. Народаў будзе мець уплыў на устанаўленьне тэрмінаў узнавеньня комунікацыі. Комунікацыя паміж Вільняй і Коўняй распачнецца да 1 верасьня.

Вось тыя цікавыя пастановы, якія прыняты Лігай Народаў аб жыхарох Віленшчыны і Горадзеншчыны і аб іх долі. Разумеецца,—пастановы гэтыя ня вырашаюць яшчэ, што і як будзе з нашым краем наагул, але яны даюць ясны доказ, што *цяперашняму палажэньню Лігаю Народаў паложаны канец*, і да 1 верасьня утворыцца ў нас нешта новае.

Нажаль, польскія тэлеграфныя агенствы, а за імі і газэты, да апошняй пары не растлумачылі некаторых неяснасьцяў, якія ёсьць у вышэйпрыведзеных пунктах.

Напрыклад:

У I-м пункце гаворыцца аб выключэньні з арміі Жэлігоўскага элемэнтаў, не паходзячых з „Цэнтральнае“ Літвы. Што разумець пад Цэнтральнай Літвой? Ці гэта так званая *Сярэдняя* Літва з двох паветаў, ці гэта *ўся тая тэрыторыя Віленшчыны і Горадзеншчыны*, якая адышла да Літвы ад бальшавікоў? Нам здаецца, што справа тут ідзе не аб двох паветах Сярэдняй Літвы, а аб ўсёй спорнай паміж Літвой і Польшчай тэрыторыі з Гораднам, Лідай, Маладзечнам, Ашмянай і Сьвянцянамі. Ды яно іначай і быць на можа, бо *Літва і ня думала адмаўляцца ад гэтых тэрыторыяў на карысьць Польшчы*. Калі мы прызнаем, што пад Цэнтральнай Літвой трэба разумець усю спорную тэрыторыю Віленшчыны і Горадзеншчыны, то ўсьлед павінны-ж прызнаць, што пад «*урадоўцамі, якія не паходзяць са спорнай тэрыторыі*“, разумеюцца ня толькі тыя урадоўцы, ня тутэйшыя ураджэнцы, якія служаць у „Сярэдняй Ліцьве, а і тыя, якія служаць на ўсёй вышэй указанай тэрыторыі Горадзеншчыны і Віленшчыны. Значыць, эвакуацыя гэтых, нятутэйшых цывільных урадоўцаў адбудзецца і з Ліды, і з Ашмяны, і з Горадна, і з Маладзечна і з Сьвянцян і, разумеецца, з Вільні.

Яшчэ ёсьць адна неяснасьць. У пункце 5-м гаворыцца, што „Літоўская армія павінна адыйсьці на месца свайго пастою ў мірным часе“. Ня ведама, якая гэта „літоўская“ армія: Сярэдня-літоўская, ці Ковенская? Нам здаецца, што Сярэдня-літоўская, бо ў пункце 4-м гаворыцца, што „аружжа і амуніцыя, перавышаючыя патрэбы міліцыі“ (5.800 чал.), павінны быць усунуты з тэрыторыі Сярэдняе Літвы. Значыць, апрача міліцыі, на спорнай тэрыторыі ня будзе ніякай іншай аружнай сілы,—ні войскаў гэн. Жэлігоўскага, ні польскіх, ні літоўскіх войскаў. Ураджэнцы Віленшчыны і Горадзеншчыны, якія служаць цяпер у войсках гэн. Жэлігоўскага, або ў польскіх войсках відаць, што могуць астацца ў спорным краe, але не як войска, а як прыватныя асобы.

Такім чынам, як нам здаецца, пад Літоўскай арміяй трэба разумець ня Ковенскую, а армію гэн Жэлігоўскага, якой і прыдзецца, згодна з воляй Лігі Народаў, „адыйсьці на месца свайго пастою ў мірным часе“.

Гэткім чынам спорная тэрыторыя Віленшчыны і Горадзеншчыны, адступляная бальшавікамі Ліцьве, якую занялі войскі гэн. Жэлігоўскага і Польшчы, цяпер паступова будзе звальняцца ад іх. З 15 ліпня пачнецца гэтае звальненьне. Улада паступова будзе пераходзіць у рукі Кантрольнай і Мілітарнай Камісіяў Лігі Народаў. Так пастанавіла Ліга Народаў. Але, адно— пастанаўленьне, а другое—яго выкананьне, аб чым сьведчыць хоць-бы прыклад з Горнай Сьлезіяй. Вельмі пажадана, каб гэты прыклад не піхнуў і ў нашым краe нікога на авантуры, каторым ўсё роўна будзе паложаны канец, і каб змучаны народ нашага краю мог свабодна і спакойна зажыць і бяз прымусу выказаць сваю нязломную волю быць у дружбе і згодзе з усімі, апрача, разумеецца, тых, хто прыходзіць да нас, як насільнік.

Як відаць,—пасьля апошніх пастановаў Лігі Народаў аб нашым краe, мы бліжэй да пажаданай разьвязкі, г. з. да ліквідацыі прыкрага палажэньня, пры якім нязначная меншасьць пануе над аграмаднай большасьцю рознаплеменнага насяленьня краю, і устанаўленьня на „спорнай“ Літоўска-беларускай тэрыторыі ладу і парадку, пры якім літоўская і беларуская народныя масы павінны па праву стаць гаспадарамі палажэньня, а польскія і жыдоўскія масы карыстацца ўсімі правамі грамадзян у свабоднай дэмократычнай літоўска-беларускай рэспубліцы,

## Час — найлепшае лякарства.

### III.

Дзяржаўнае Выдавецтва (парасійску скарочана „Госиздат“) заснавалася ў Савецкай Беларусі 1 сьнежня 1920 г. і, праз месяц, у пачатку сёлетняга году пачало функцыянаваць, аб чым кажуць выразна афіцыяльныя ведамасьці.

Выдавецтва гэтае, калі браць пад увагу тыя самыя афіцыяльныя даныя, бязумоўна беларускае, па свайму географічнаму палажэньню (Менск), але наўрад ці беларускае яно па свайму зьместу і па працы.

Напрыклад, да 1 сакавіка г. г. выдавецтвам выдана 149 тысяч экзэмпл. брашураў, 164 тыс. экз. лістовак, 28.900 экз. лёзунгаў і 19.935 экз. плякатаў. Сярод брашур—творы Троцкага, Мясьнікава, Зіновьева і інш. камісараў. Есьць, праўда, і інструкцыя для мэдыцынскага пэрсоналу аб тым, як даглядаць хворых на сыпны і заротны тыфус; выдана яна ў ліку 159.000 экзэмпляраў.

Разумеецца, што ўсе гэтыя брашуры выданы парасейску і для культуры беларускае ніякага значэньня мець ня могуць.

З выданьняў беларускіх трэба ад'значыць хрэстоматыю „Родны край“ ч. ч. I і II, якую ў сакавіку месяцы выдавецтва мела выпусьціць ў ліку 10.000 экзэмпляраў. Пэрыядычна выходзяць у беларускай мове: штодзенная газэта „Савецкая Беларусь“, і журналы: літэрацкі „Вольны Сьцяг“ і дзіцяча - школьны „Зоркі“. Першыя дзьве часопісі па сваім фармаце і друку амаль што ня розьняцца ад „Беларусі“ і „Руні“, якія выходзілі ў Менску пры палякох.

Гэта апошняе ўсё, зроблена ў пачатку бягучага году ў сэнсе беларускага выдавецтва ў Менску. Для „дзяржаўнага“ выдавецтва гэта, пэўна, што ня шмат. Ў рэзалюцыйнай часьці справаздачы выдавецтва за першыя два месяцы г. г. ёсьць гутарка аб тым, што „ў бліжэйшым часе асаблівая ўвага зьвернецца на выданьне беларускае літэратуры“, дзеля чаго адводзяцца дзьве друкарні ў Менску і адна ў Бабруйску, дзе ёсьць павятовы аддзел дзяржаўнага выдавецтва. Гэткі самы аддзел проектавалася залажыць у Барысаве.

Апрача хрэстоматыі, мелі быць выданымі школьныя падручнікі: беларуская граматыка, задачнік Шапашнікава і Вальцава (пабеларуску) і „Практычная граматыка беларускай мовы“ Я. Лёсіка. Але для выданьня гэтых рэчаў, як відаць, ізноў-жа патрэбна *заграніца*, як патрэбна яна для выданьня поўных зборнікаў твораў Купалы, Коласа, Бядулі і інш., аб чым ёсьць рэзалюцыйнае пажаданьне.

ЦИК на сэсіі ў лютым асыгнаваў на падмогу бедным літаратарам і вучоным, якія працуюць на *мясцовых* мовах Беларусі, 2 мільёны рублёў. Мясцовых моваў налічваецца 5 (ў іх ліку й расейская), вучоных і літэратараў, напэўна, набярэцца крыху больш як моваў і, дзеля гэтага падмога ім, калі яна выдаецца савецкімі грашыма, ня можа быць залічана за вялікае шчасьце. 5 мільёнаў рублёў асыгнована на прэміі аўторам лепшых падручнікаў на беларускай мове. 5 мільёнаў руб. асыгнована на „пад'ёмныя“ культурным работнікам, якія вяртаюцца ў Беларусь.

Магчыма, што гэтыя асыгнаваньні былі толькі пачатковымі і што яны па меры разьвіцьця выдавецкае працы робяцца й далей. Магчыма, што ёсьць нарыхтованыя да друку рукапісы беларускіх школьных падручнікаў, літэратурных зборнікаў і г. д., але ня чуваць, каб што-небудзь з гэтых рэчаў было надрукована.

Беларускі хор і беларускі тэатр працуе ў Менску добра і часта камандзіруецца на вёскі, хаця брак фурманак гэтыя выезды тэатру й хору на провінцыю моцна абмяжоўвае. З прыватных вестак чуваць, што сілы беларускага тэатру ў Менску вырасьлі да таго, што ён мог у пачатку гэтага году чатыры разы паставіць вядомую пьесу Максіма Горкага „На дне“ ў беларускім перакладзе. Бальшавікі, як відаць, з вялікай павагаю адносяцца да беларускага тэатру, а асабліва хору, які сама намесьніца камісара прасьветы М. Фрумкіна называе ў афіцыяльных дакладах „прекрасным“.

Але найвыразьнейшым доказам новае пазыцыі бальшавікоў у беларускім пытаньні, трэба лічыць іх выступленьні ў лютым на сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту саветаў Беларусі, калі на чаргу стала пытаньне аб беларускай мове ў школе.

Апрача Фрумкінай у абарону беларускай мовы выступіў навет „сам“ душа савецкай Беларусі камісар Кнорын. Праціўнікі беларускае мовы: Карэлін, Калінін і Перапечын (усяго тры і досіць „беларускія“ прозьвішчы) пачулі ад Кнорына досіць цікавае „прынцыпіяльнае“ тлумачэньне гэтае справы.

Напомніўшы словы Леніна „паскрабі велікарускага камуністага і ты знойдзеш самага тыповага нацыяналістага“—фактычны дыктатар менскае рэспублікі сказаў, што патрэбна адрачыся ад пагляду, нібыто пытаньне аб мове зьяўляецца нацыяналістычным. „Мы ня можам займацца русыфікацыяй“, — проста заявіў Кнорын. Хаця далей досіць недыплёматычна прызнаўся, што выкладаньне ў школе пабеларуску „будзе мець крыху практычнае значэньне, бо пераход на беларускую мову (каго?)— справа далёкае будучыны, але *мае вялікае значэньне палітычнае і міжнароднае.*

У вуснах Кнорына гэткі тон—нешта вельмі новае.

Беларускі пісьменьнік Жылуновіч заявіў, што ён ведае факты, калі за беларускую мову проста прасьледуюць, як,

напр., у Слуцку нейкі Ўладзімерскі лічыць контр-рэвалюцыянэрамі ўсіх, хто гаворыць пабеларуску. А быўшы царскі інспэктар Пакроўскі не дае разьвівацца беларускім школам у Ігуменскім павеце...

Калі на мясцох справа выглядае гэтак, а ў цэнтры камісары з Масквы гавораць іншае, дык можна думаць, што Кнорыны вылечваюцца ад сваіх ідэяў цэнтралізму толькі на той час, на які вымагае інтэрас бальшавіцкіх дыплёматаў і „вялізнае палітычнае й міжнароднае значэньне“ Савецкай Беларусі.

Яшчэ мацней у абэрону беларускай мовы выступіў часовы намесьнік камісара прасьветы Каранеўскі на зьезьдзе „работнікаў прасьветы й соцыялістычнае культуры“, які адбыўся з 9—13 студзеня г. г. ў Менску і на 125 усіх дэлегатаў меў у сабе толькі 18 камуністых і 9 ім спачуваючых. Каранеўскі на гэтым зьезьдзе заявіў проста, што „трэба раз назаўсёды зьліквідаваць безграматнасьць беларусазнаўства сярод работнікаў прасьветы, бо заявы аб тым, што няма беларускае мовы й культуры можна чуць толькі ад сьлепаватых і безграматных, якім ён радзіў-бы зьвярнуцца да проф. Карскага ў Петраградзкую Акадэмію Навук, дзе можна дастаць падручнікі па гэтым пытаньні, асабістыя тлумачэньні і шмат іншых карысных ведамасьцяў“.

Да гэткага тону дайшлі афіцыяльныя прадстаўнікі прасьветнае бальшавіцкае ўлады ў Сав. Беларусі.

А з гэткіх выступленьняў павінны вынікаць і адпаведныя дзеі ў кірунку вольнага разьвіваньня беларускае культуры.

Калі-ж гэта так, дык мусі праўда, што пагляды бальшавікоў на беларускае пытаньне моцна зьмяніліся.

І зьмяніліся яны, дзякуючы часу, які зьяўляецца найлепшым лякарствам ад розных імпэрыялістычных хваробаў.

**Краўцоў Макар.**

# Панскія зьдзекі.

Ні грукат гарматаў, ні полымя сяліб, ні кроў людзкая пралітая на землях Беларусі ня прынясьлі шчасьця гэтай многапакутнай староны. Як і раней, беларус застаецца пасынкам на сваёй зямлі, без правоў палітычных і нацыянальных і навет кінуты ў горшыя, чым раней, эканамічныя варункі.

Адвечныя думы-мары аб пашыреньні шнура зямлі, здавалася вот-вот зьдзейсьняцца.

Але гэтак здавалася...

Сучаснае жыцьцё малюе іншыя абразы, іншыя надзеі... Дворная зямля палітая потам і крывёю беларускага селяніна перадаёцца другім, а народу нашаму, калі што і дастанецца, дык дастанецца дзе-небудзь ў шахаўніцах.

Сумнае думкі прыходзяць у галаву, калі падумаеш аб заўграшнім дні, але і сягоняшні ня лепшы.

Карэспандэнт газэты „Robotnik“ аб'ехаў нашу Піншчыну і што-ж ен там бачыў? зьдзек, нячуваны зьдзек, над селянінам і парабкам.

Паны дзяруць тры скуры з селяніна і парабка за зямлю, на тое, каб мець магчымасьць жыць сыта па заграніцах і курортах. Што яны для гэтага ня робяць, проста жах бярэ.

Паміж іншымі абшарнікамі вызначыўся і вядомы беларус пан Р. Скірмунт.

Во што аб ім піша „Robotnik“:

„Двор п. Скірмунта „Парэчча“ мае орнай зямлі і лугоў больш як 2.000 дзесянцін, апрача лесу. Ў 1915 г. прышлі немцы, потым бальшавікі. Скірмунта ня было, ў двары засталося толькі многа дворнае службы, якая жыла, як хто меў магчымасьць.

Двара ніхто ня грабіў і ня нішчыў, усё засталося ў поўным парадку. Дзе-хто з парабкоў здоляў купіць ці ад немцаў, ці, як пазьней было, ад адходзячых бальшавікоў, якога-небудзь выбракаванага коніка; такія шчасьліўцы гаралі аблогі, тое-сёе сеялі, абы пражыць.

Прышло польскае войска, прыехаў да двара і пан Скірмунт. Пашлі да яго парабкі набыўшыя коняў, дзяды і прадзеды каторых вякамі працавалі ў гэтым двары і просяць: «Ясна-Вяльможны Паночку, вызначце нам па 2—3 дзесянціны аблогаў, будзем працаваць на „трацьцяк“. А вяльможны пан думае: „Гэтыя хамы сьмеюць мець коняў! Яшчэ гэтыя бальшавікі будуць пазьней выдумляць прэтэнзіі да мае зямлі? Выгнаць! Вон!“

І ўсіх тых, што мелі коні, а было іх за дзесятак сем'яў, выгнаў з двара на ўсе чатыры бакі.

Адзін з выгнаных скардзіўся мне: «Паночку, служыў я яшчэ ў бацькі пана Скірмунта, служыў і ў яго больш як дзесяць гадоў, вераю і праўдаю, а прагнаў і за што, ня ведаю. Сям'я вялікая, я стары, даху над галавою ня было. Пашоў яшчэ раз да пана, хацеў ужо каня прадаць, але ён і гаварыць са мною не захацеў.

Такая ўжо доля беднага чалавека: працуй цэлае жыцьце, а пазьней, як сабаку выганяюць“. І сьлезы сталі ў яго вачох.

„А як жа ваколічныя мужыкі жывуць?“—спытаўся я.—„Блага, паночку! Зямлі свае дужа мала: 1, 1½, найбольш 3 дзесянціны. За ўсялякай дурніцай трэба ў двор, да пана Скірмунта бегчы. Пан Скірмунт нічога сабе пан, з кожным пагамоніць, але з мужыка тры скуры здзярэ: і за пашу, і за дрэва, і за грыбы і ягады. За ўсё гэта трэба адрабляць коньмі і сабою. Вечная няволя. Цэлы год працуюць у двары забясцэн, задарма. Ледзьве выжыць можна. Але што-ж рабіць, жыць трэба».

Так жывуць парабкі і сяляне каля п. Скірмунта, але яшчэ гэты пан лічыцца тут за аднаго з лепшых і далікатных земляўласьнікаў, а што гаварыць аб іншых».

І сапраўды, судзячы па тэй-жа газэце, іншыя ў тысячу разоў горш. І льюцца гэтыя сьлёзы гаротныя па ўсім абшары беларускай зямлі. Нявольна прыходзе запытаньне: калі канец прыдзе гэтай бядзе, дзе тая праўда захована, якая здоляе даць выхад з гэтага палажэньня?

Сьлёзы, пот і кроў...

Нарэшце, заўважыла гэтыя сьлёзы польская соцыялістычная партыя, калі ўзялася яна пісаць пра паноў, якія робяць крыўды нашаму народу.

Але гэтак здалося... Не аб тое ім ходзе, што ім да сьлёз чужога народу! За другое іх злосьць на паноў бярэ.

Польскія соцыялістыя хочуць, як мага хутчэй, засяліць дворныя землі Беларусі польскімі жаўнерамі; а тут як на грэх, паны абшарнікі, як тыя кляшчы, трымаюцца за зямлю і ня хочуць яе аддаваць польскаму жаўнеру.

Паны добра ведаюць што сялянства, ня верачы ў зямельныя рэформы, прымушана будзе зямельнай цеснатой купляць гэту зямлю і плаціць шалёныя цэны, навет па 100 доляраў за дзесянціну, як хацеў п. Твардоўскі з двара Ясеглы. (Robotn. № 165).

І каля зямлі паднялася цэлая завіруха. З аднаго боку паны абшарнікі езьдзяць у Варшаву ў Міністэрства і просяць, каб зямлю дворную пакінулі, быццам, для сялянства, а сапраўды для паноў, а з другога боку Соймавая Камісія, па трэбаваньню польскіх соцыялістых у асобе «таварыша» Маліноўскага, прысьпяшаець Урад да хутчэйшай колёнізацыі двароў польскімі жаўнерамі.

„Ці пнём саву, ці аб пень саву—ёй заусёды баліць“, так і тут; хто-б ні перамог у гэтай завірусе, беларускі селянін у гэты час, калі і дастане зямлю, дык у шахаўніцах.

Але нічога, жыцьцё йдзе сваей чаргою.

Дзіўна толькі тое, што на сьвеце ёсьць такія соцыялістычныя партыі, як пэ-пэ-эсы, якія здольны на горы аднэй беднаты, праўда іншай, другой нацыянальнасьці, будаваць шчасьце другіх—свае беднаты.

Няўжо-ж шовінізм ня дазваляе бачыць, што гэтай колёнізацыей сеецца вецер, вынікі якога ня дадуць карысці ні польскаму, ні беларускаму народу.

Кажуць на «Kresach» зямля ляжыць аблогам.

Праўда пад аблогам шмат зямлі ляжыць. А чаму?

Ды таму, што чуць ня 50% жыхароў Градзеншчыны, дый з іншых месцаў Беларусі выгнана царскімі нагайкамі у Расею ў час адходу расейцаў перад немцамі. Дык няўжож гэтыя выгнанцы згубілі права на зямлю дзядоў і прадзедаў і ня маюць права жадаць пашырэнь[illegible] яе плошчы за рахунак абшарніцкіх [illegible]мель?

Далей. А тыя што тут засталіся, ці-ж маюць магчымасьць пашырыць сваю працу на большыя загоны, калі коні й іншая жывёліна пазабірана рознымі рэквізытарамі. А насеньня даў ім хто? Не...

З іх толькі можа браць хто хоча, а ім толькі абяцанкі, як з тымі коньмі, якіх табунамі абяцалі розьныя стража-крэсоўскія інструктары за подпісы аб прылучэньні да Польшчы.

А дзе ўзяць адпаведны крэдыт на закуп няжывога інвэнтару?

А дзе тая добрая агранамічная рада, з якой падышлі-б да селяніна з яго роднаю моваю і памаглі-б яму з'арганізаваць гаспадарку, як гэтага вымагае час?

Ня даць у першую чаргу сялянству зямлі лёгка, але папробуйце даказаць, панове пэ-пэ-эсы, што гэта справядліва з соцыялістычнага боку.

Гаворачы аб тым-жа пане Скірмунце „Robotnik“ піша:

«Пан Р. Скірмунт пры здачы аблогаў, браў менш, як яго суседзі. Апрача трацьцяку, ці навет палавіны ўраджаю хацеў яшчэ досіць значнай работы коньмі і сабою на яго ў маёнтку.

Дзякуючы такім варункам два фальваркі засталіся незасеянымі. Адзін з гэтых фальваркаў захацела заняць адна вайсковая часьць. Даведаўшыся аб гэтым, п. Скірмунт наказаў сялянам, каб тыя, як мага хутчэй, на якіх толькі хочуць варунках на трацьцяк збору, ці навет без яго, але толькі забіралі і засявалі зямлю.

Сяляне вядома неадкладне ўзяліся за працу, і калі прыйшла вайсковая часьць, дык Скірмунту нічога іншага не давялося сказаць, як «Нічога не магу даць для колёнізацыі, ўсё сяляне разабралі і аруць; сам маю зямлі ня шмат».

Гэткія факты жыцьця, а яны куды мацней за усялякія пісаныя законы.

**Бічук.**

Усіх паважаных грамадзян падпісчыкаў, якія неакуратна дастаюць „**НАШУЮ ДУМКУ**“, надта просім паведаміць нас аб гэтым.

# АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ.

**(Дасьледзіны беларускага сьветагляду)**

(Гл. № 26 „Нашай Думкі“).

І вось калі чалавек даволі малады сэрцам, каб мець надзею, што з жыцьця можна зрабіць нешта цікавае і каштоўнае, затрымаецца думкай над сучасным жыцьцём, дык спачатку яму пачне здавацца, што выхаду няма, што сьветлае і праменнае — толькі мана, а направер усё апыняецца пылам і гразью. Дапраўды, гдзе-ж той сьветагляд актыўных людзей, шчыра кахаючых працоўны народ, для якіх яго доля—іх доля, дзе-ж такі сьветагляд каб ён падаволіў сумленнага чалавека?

Ўсе істнуючыя пагляды на жыцьцё можна груба і прыблізна падзяліць на два станы: адны кажуць — „ўсе істнуючае разумна“, другія-ж — неразумна. Хай выбачыць нам Гэгэль, што мы яго формулу скарыстаем ў тым сэнсе, як яе ўжывае грамадзянства, а ня ў точна такім, які ўлажыў ў яе вялікі філёзоф.

Прыхільнікі таго, што „ўсё істнучае—разумна“, не становяць, якой-небудзь, выразнай групы, тут мы знойдзем думкі і напрамкі, належачыя да розных чалавечых груп. Найболей выразны прадстаўнік гэтага кірунку — офіцыяльнае хрысьціянства, як яго тлумачыць духавенства. „Любі бліжняга і ня рыпайся, бо нічога ня зробіш... Ніводзін волас не спадзе з твае галавы па тваёй волі... Калі бачыш несправядлівасьць, гэта ад Бога, так павінна быць... Паважай начальнікаў, ня лай багатых, бо нічога не паможа“... Быццам так запаведаў Той, быццам такі гнілы спакой запаведаў Той, хто казаў: „ня мір прынёс Я вам, а меч“. Быццам Той казаў паважаць бязумоўна старэйшых, Хто, blішчучы вачыма, мятаў на іх громы і самую крыўдную лаянну: «Ліцамеры, зьмеі, параджэньні ехідніны... вар'яты і сьляпыя... хай упадзе на вас уся кроў праведная, якую вы пралілі... вось застаўляецца дом ваш пуст»... і грaзіў ім вечным агнём і скрыгатаньнем зубоў і пракленствам, як на няплодную смакоўніцу.

„На маісеявым сядалішчы селі кніжнікі і фарысеі“, гэта-ж літаральна адносіцца да сучасных прапаведнікаў афіцыяльнага хрысьціянства, каторыя запомнілі аб тым, што „і Айцом нікога не завеце, бо адзін у вас Айцец на небе, і настаўнікамі не завецеся, бо адзін настаўнік—Хрыстос“. Сучасныя айцы і настаўнікі высмакталі з пальца тое, чаму вучаць народ, і сутнасьць вялікага, несьмяротнага вучэньня ў іх вуснах пажоўкла, ссохла, страціла жывы дух. Хрыстос казаў, што мы — сыны Божыя, нам кажуць, што мы дзеці нячысьціка. Ен казаў, што мы павінны рабіць волю Айца нашага нябеснага, сучасныя айцы і настаўнікі, што—іхнюю, бо вольны, творчы дух не ад Бога, а нячысьціка. Так адмаўляецца творчасьць, імкненьне да сьвятлейшага, а жыцьцё ўганяецца ў форму выгляднай набожнасьці.

А вось з другога канца вучэньне аб разумнасьці істнуючага. „Ўсе факты грамадзкага жыцьця знаходзяцца ў залежнасьці ад «гістарычнай неабходнасьці“. Тое, што ёсьць, мае сваю гістарычную падставу—такая сутнасьць погляду на жыцьцё, як рэформ соцыялістаў, якіх камуністыя завуць соцыяль-здрайцамі, так і кожнага, хто хацеў нешта стварыць з жыцьця і спасаваў перад ім. Мы бачылі праменнасьць пахаджэньня самага соцыялізму, а рэфармістыя кажуць: „вось гэтыя зьявішча жыцьця — гістарычны, неабходны, знача і соцыялісты навет іх павінен прыняць... Бараніць бацькаўшчыну трэба, —знача, трэба войска. Трэба войска— патрэбны вайсковыя крэдыты. Вайна вымагае тайны, знача, гэтыя крэдыты не падлягаюць народнаму кантролю. Так рэфармістыя адмаўляюцца патроху ад ўсіх жаданьняў соцыялізму, трацячы сэнс свайго істнаваньня.

Вынік з гэтага той, што разам з разумным пачынае істнаваць і неразумнае, і калі жыцьцё прынята цалком, дык трэба прымаць ўсе яго бакі. І вось, калі вы сустрачаеце чалавека, які згаджаецца з асновай істнуючага (проці дэталяў ён можа рабіць опозыцыю) дык робіцца ясным, што творчае і жывое ў ём памерла, што ён здольны толькі на маленькае, што яму не дасягнуць агульнага і вечнага.

Ёсьць другі тып сьветагляду: „ўсе істнуючае—неразумна“. Тады нехапаючая папярэдняму тыпу актуальнасьць у грунтоўным перабудаваньні жыцьця кідаецца ў другую скрайнасьць. „Так далей жыць нельга“, любімы выраз Бакуніна, і бакунізм зьяўляецца найболей [illegible] прыкладам гэтага ультра-актыўнага сьветагляду.

„... мы стары сьвет зруйнуем
Да аснаваньня... А затым
Мы наш, мы новы сьвет збудуем.
Хто быў нічым, той будзе ўсім“.

Так пяюць сучасныя актывістыя— прыхільнікі III Інтэрнацыяналу. Іх досьлед зроблены. Ад старой Расеі не засталося і камня на камені. Грунт жыцьця стаў новым, але чаму-ж у дэталях жыцьцё так прыкра падобна да старога? Чаму трудавая павіннасьць падобна да паншчыны, сучасныя адміністратары да старых гараднічых, чаму адкрыта кажуць: „не абманеш — не паедзеш“, чаму ў працоўнай рэспубліцы ніхто літаральна ня мае магчымасьці жыць з уласнай працы, а павінен шукаць непрацоўнага заробку: ў спэкуляцыі, хабарніцтве і іншым, што забаронена законамі? Чаму гэта дэталі жыцьця так зьдзекуюцца з яго, калі зьменена самая аснова? Ёсьць і ў сучасных камуністых свайго гатунку рэфармістыя і хрысьціянскія маралістыя, якія кажуць, што наогул ўсе-добра, а перашкаджаюць толькі „маленькіе недостаткі механизма“, што вінавата ня зьмена асновы, а гэтыя самыя дэталі: тут маем ужо справу з вечнай праявай духовага мяшчанства.

Справа-ж, пеўне, толькі ў тым, што на зьмененым грунце жыцьця людзям не хапае творчай здольнасьці, каб вытварыць адносна да новага грунту і ўсе дэталі. Не хапае творчай энэргіі, і мімаволі драбніцы вяртаюцца да старога, абяртаючы жыцьцё ў дрэнную карыкатуру, на новае віно ў старым мяху, або труп, убраны у балёвую вопратку.

Гэтага страшнага выгляду спужаліся найбольш сумленныя камуністыя. Пасьля актыўнага выступленьня нямецкай камуністычнай партыі ў марцы г. г., творчасьць якое вызначылась ў сотнях сьмерцяў, ўзрывах, псаваньні дарог і інш., іх быўшы

# Маленечкія фэльетоны.

## Трывожацца...

— Куды гэта вы, паночку, так сьпешаецеся?! Пытаецца „сярэдня-літовец“ тутэйшы „сярэдня-літоўца“ з Галіцыі.

— На „wiec“, паночку, на wiec... Трэба яшчэ раз, запратэставаць проці пастановы Лігі Няцыяў.

— Навошта-ж вас яна так абходзіць?

— А як-жа, паночку?!...—Здаецца-ж ведаеце — меў ужо і месца цёплае і устроіўся гэтак добра ў Вільні, а тутака на табе! Ліга Нацыяў кажа, каб усе нятутэйшыя выехалі...

Але, але, паночку...

— Ну дык вось бачыце—як-жа не пратэставаць, як-жа не жадаць хутчэй далучыцца да Польшчы?

— Але, але, паночку... Пэўне-ж свая скура даражэй, як іншага...

* * *

## Крыху йначай.

— Ну як, братачка, ідуць нашыя справы ў „Краёвай Сувязі“?

— А нічога сабе—вось п. Алексюк „зьезьдзіў“ у Варшаву... вось вярнуўся і сказаў прамову... вось адсьвяткаваў свае імяніны...

— Дый, братачка, гэта-ж здаецца, як раз, як і ў тым годзе?...

— Але братачка—зусім, як тады...

— Дык пэўне-ж і вынікі гэтыкія самыя.

— Не, „вынікі“ трохі адваротныя: тады яны былі пасьля імянін, а цяперака адбыліся... да імянін.

Куля.



## „Асвабадзіцелям“ і з тога і з другога боку.

Маўчаць ня трэба, сьвет увесь хай чуе,
Адкрыта, трэба ўсім сказаць,
Сябе хай сэрца моўчкі ня бічуе,
Цішком усіх нам сьлез не паглыкаць...

Пара ўжо! Ірвуцца тыя путы,
Якімі нас хацелі абкруціць! —
Так ведайце-ж, і здрайцы й баламуты.
Што й мы жывём, што хочам жыць.

Чаго прышлі да нас? Чаго вам трэба?
Нас вызваляць? асвабаджаць?
Свабоды вашае ня просім мы ад Неба,
Яе і ворагам ня радзім знаць.

Ня трэба нам яе! Сабе вы занатуйце,
Назад вазьмеце свой вы дар!
І ведайце народу голас, чуйце:
„Я сам сабе і Пан і Гаспадар.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І. Д.

# Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 1 *ліпня* 1921 *г.*

— 27 чэрвеня ў Лізе Народаў у Жэнэве разглядалася *віленскае пытаньне*. Гюманс зрабіў даклад аб польска-літоўскай спрэчцы. Прадстаўнікі розных нацыяў згадзіліся з прапазыцыяй Гюманса. Аскіназі дзякаваў Гюманса за працу і прапанаваў зараз-жа ўзнавіць дыплёматычныя зносіны і чыгунковы камунікат з Літвой. Далей ён сказаў, што, згодна з пастановай Сойму, Польскі ўрад згаджаецца пачаць абгаварываць проект Гюманса, але толькі з тэй умовай, калі насяленьню віленшчыны будзе дана магчымасьць выказаць сваю волю аб лесе Віленшчыны. Гальванаўскас, заявіў аб тым, што Літва прымае за грунт далейшых перагавораў проект Гюманса.

— З пэўных крыніц ужо вядома, што дэлегаты Польшчы і Літвы прынялі, як прынцып, проект Гюманса, па якім з Віленшчыны прапануецца стварыць аўтономны кантон, які павінен увайсьці ў склад Польска-Літоўскай фэдэрацыі. Аднак Польшча дамагаецца, каб быў зроблен апрос насяленьня, Літва згаджаецца на гэта, але вымагае эвакуацыі войскаў ген. Жэлігоўскага.

— У пасяджэньні 29 чэрвеня будзе разглядацца пытаньне аб выдаленьні з арміі ген. Жэлігоўскага усіх асоб, каторыя не радзіліся ў Ліцьве. Ліцьвіны не згаджаюцца на дапушчэньне прадстаўнікоў Віленшчыны на польск.-літоўск. конфэрэнцыю.

— Сьлезія будзе падзелена. Міжсаюзная камісія ладзіць проект падзелу к 10 ліпня.

— Польскі Сойм у хуткім часе будзе разглядаць буджэт Польшчы. Усіх даходаў хапае толькі на пакрыцце 20% выдаткаў. Толькі адна пошта дае даход, а па ўсім іншым справам дзяржава даходаў не дастае. Чыгунка дае 15 мільярдаў дэфіцыту. Даўгі Польшчы таксама растуць. Агулам, да 24 чэрвеня выпушчана ўжо папяровых грошай на 100,028,986,253 маркі. („Вперед“).

— Конфлікт між уласьнікамі капальняў (копяў) і работнікамі у Англіі, з-за якога была забастоўка, аканчальна ліквідаваны.

— З Клайпэды (Мэмель) пішуць, што яна таксама хоча мець сваіх прадстаўнікоў на польска-літоўск. конфэрэнцыі.

— Вестка аб перарыве дыплёматычных зносін між Сав. Расеяй і Лацьвіяй падцьверджаецца.

— Як пішуць газэты, на Украіне сёлета не засеяна 1.250.000 дзесяцін ворнае зямлі.

— Ген. Брусілаў назначаны камандуючым украінскімі савецк. войскамі.

*Субота*, 2 *ліпня* 1921 *г.*

— Віленскае пытаньне вырашана: на аснове пастановы Рады Лігі Народаў у Жэнэве, якая прыняла проект Гюманса, 1) польска-літоўскія перагаворы павінны ўзнавіцца 10 ліпня, абедзьве староны маюць права прысылаць у Раду Лігі Нар. прадстаўнікоў этнічных груп, з інформацыйным голасам; пастановы гэтых перагавораў зацьверджваюцца у Варшаве і Коўне, а потым і ў Вільні. 2) Паступова з арміі Жэлігоўскага выдзяляюцца ўсе не сярэдня-літоўск. элементы. 3) Арганізуецца мясцовая міліцыя ў ліку 5.800 чалавек, лішак аружжа вывозіцца. 4) Паступова эвакуюуцца ўсе чыноўнікі не сярэдня-літоўцы. 5) Літоўская армія адходзіць на мірныя пазыцыі і памяншаецца. Далей рада Лігі Нар. прапануе ўзнавіць камунікат між Польшчай і Літвой. За гэтыя пастановы падалі голас прадстаўнікі ўсіх дзяржаваў апрача Польшчы і Літвы.

— Фільтрацыя войскаў гэнар. Жэлігоўскага пачнецца 15 ліпня.

— Буджэтна-фінансав. камісія ў Польскім сойме абгаварывае спосабы падняцьця курса польскай маркі. Міністар фінансаў радзіўся аб гэтым-жа з прадстаўнікамі біржы і саюзу польскіх банкаў.

— III інтэрнацыянал у Маскве займаецца пытаньнем аб загранічнай прапагандзе. Рэзыдэнцыю інтэрнацыяналу зьбіраюцца перанесьці на далёкі ўсход.

— Ураджай на ўсходзе Сав. Расеі кепскі; чакаюць голаду.

Лёйд-Джордж ідзе на ўступкі ірляндцам.

*Нядзеля*, 3 *ліпня* 1921 *г.*

— На нарадзе аб спосабах палепшаньня валюты ў Варшаве абгаварывалася пытаньне аб штэмпеляваньні марак і аб прымусовай пазычцы.

З Жэнэвы пішуць, што польскія дэлегаты усёж-такі і далей будуць дабівацца дапушчэньня дэлегатаў Віленшчыны на конфэрэнцыю з правам рашаючага голасу.

— Амэрыканскія Злуч.-Штаты рыхтуюцца залажыць у Коўні амэрыканскае консульства, разам з гэтым, нібыто, Амэрыка прызнае Літву de jure.

— Для папраўкі фінансаў Польскі міністар фінансаў ладзіць аднаразовы прымусовы налог на карысьць дзяржавы.

*Панядзелак*, 4 *ліпня* 1921 *г.*

— Паўстаньне у В. Сьлезіі аканчальна ліквідуецца. Корфанты ўзноў выпусьціў адозву з клічам з верай чакаць рашэньня Рады Лігі Народаў.

— Пэнсія вайсковым у Польшчы павялічваецца на 80%.

— Гэтымі днямі будзе падпісана Польска-Румынская вайсковая умова.

— Польскі Сойм прыняў закон, якім касуюцца агранічэньні правоў кабет.

— У Сав. Расеі ладзіцца рэформа судоў. Нар. Камісарыят юстыцыі замяняецца галоўным пракурорам рэспублікі. Усе трыбуналы ка-

правадыр — Леві, адхіліўся ад іх, пачаўшы голасна маракаваць:

„Таварышы, што вы робіце?.. вы, што канаце аб долі і волі рабочых—чаму кідаеце іх на сьмерць, голад і нядолю?“. Так кліча і кожны шчыры прыхільнік працоўных масаў. „Сама“ Кляра Цэткін зрабіла прапазыцыю аб зьмене партыйнай тактыкі, якая больш падобна да бакунізму, чымся камунізму...

Абодва погляды на жыцьцё, як „ўсе істнуючае разумна“, так і праціўны, маюць у сабе частку праўды. Першыя кажуць аб магчымасьці зьмены цэлага і патрэба працаваць пад дэталямі. Тут ёсьць рацыя, бо чалавек павінен тварыць жыцьцё цалком і ў вялікім і ў малым. А патрэба тварыць вялікае вечнае, што здаецца немагчымым першаму сьветагляду, падкрэсьлена другім кірункам. Чалавек павінен тварыць вялікае, ён чуе, што ён—сын „Божы“, што ён частка Бога, што ён павінен тварыць волю Айца свайго.

Так абодва кірункі зьліваюцца ў адзін „усе істнуючае-творча“, гэта знача, вымагае творчасьці, працы, а што істнуючага няма ні разумнага, ні неразумнага. Пакуль яно істнуе, як-бы стаіць, патуль яно неразумна і вымагае творчасьці; цераз творчасьць яно імкне да разумнага, але па сваім зьдзейсненьні зараз-жа робіцца неразумным, г. з. вымагае новае творчасьці. У жывым няма ні разумнага, ні неразумнага, гэта — катэгорыі няжывога. Жыцьцё вечна імкне, льецца, цячэ. Вечны творчы працэс ад неразумнага да разумнага і ніколішняе недасягненьне да апошняга, вось— сутнасьць жыцьцёвага працэсу.

IV.

Гістарычныя шуканьні няпрымусовых форм соцыяльнага аб'яднаньня. — Сучасная каапэрацыя, як узор няпрымусовага злучэньня. — Адвечны шлях.

* * *

Няхай сучасная палітычна-грамадзянская чыннасьць банкрут, няхай найбольш пашыраныя сьветагляды не разьвязваюць найбольш канечных жыцьцёвых пытаньняў, а выхад ёсьць, быў адвеку, мігаціць адвечны веснавы прасьвет: ён у сталай творчасьці бязупыннай, бязустаннай. Ні прымусовае гаспадарства, ні сучасныя палітычныя партыі, пачынаючы ад чырвона-соцыялістыччых і канчаючы чорна-клерыкальнымі, якія мараць аб захапленьні ўлады і аб бязьлітаснай дыктатуры, ня выхаваюць творчага чалавека. Будучына іх—духовая сьмерць.

Неабходна стварэньне новых соцыяльных аб'яднаньняў, ў якіх гарманізавалася-б магчымасьць істнаваньня вольнай незалежнай адзінкі асобы і плоднай соцыяльнай паступовай працы, незатрыманай хцівым эгоізмам адзінкі. Незалежная творчая адзінка ў творчым, нястрымаючым адзіначным эгоізмам хаўрусе — ідэал будучыны. Ён быў часткай зьдзейсьнены ў прошласьці, ў малой долі ёсьць і цяпер.

Самыя пачаткавыя людзкія грамадкі былі пабудованы на падставе прымусу. І пачаткавы радавы камунізм і сямейныя колектывы, на якія распалася радавая камуна, былі пабудованы на абавязковай прыналежнасьці кожнага сябра да свайго роду, або сямьі. Ўва ўнутраных адносінах панавала старое абычаёвае права ды воля старшага як бязумоўная ўлада. Трудна было шукаючай адзінцы задаволіцца такімі абставінамі. Яна рвалася на волю, але там чакалі яё дзікія зьвяры, голад, небясьпечнасьць; у грамадзе—прымус, неадпаведная жаданьням праца, зьдзек дужэйшых над слабымі. І вось яднаюцца грамадкі незадавольненых і адходзяць ад роднага карэньня. Прадгістарычныя часы і ранейшая гісторыя славянаў ведае бяз ліку гэткія грамадкі-аб'яднаньня, каторыя шукаюць новага жыцьця, новае долі. Беларускія сябрыны, паўночна-славянскія ватагі, чорнагорскія удружэньні, чэскія задругі, то на лёгкіх чаўнох па рэках і морах, то сухім шляхам ідуць на новыя месцы, займаюцца промысламі, творачы сабе жыцьцё, якое ім здаецца лепшым. Калі сябру што не падабаецца, ён вольны пакінуць сябрыну, адыйсьці; калі ўсе незадаволены, сябрына распадаецца і сябры ідуць шукаць лепшай долі. Такім крокам ідзе славянская колёнізацыя, пакуль цяжкая рука земскай ўлады не накладае ярмо на новыя колёніі і не аплятае іх прымусам гаспадарсьцьвеннасьці.

Да позьняга веку затрымалася адна такая грамада, якая давала магчымасьць дыхаць іншым паветрам украінскім і беларускім сялянам. Гэта—Запарожаская Сеча. Адсутнасьць прымусу да сваіх сяброў была галоўнаю яе ад'знакаю, прыходзіў, хто хацеў, і адыходзіў, калі яму падабалася. Сеча з аружжам у руках бараніла чалавечае права на волю і незалежнасьць, але ніколі ня была разбойным гняздом гультаёў і зладзеяў, як яе хочуць выставіць шляхоцкія гісторыкі. Запарожцы жылі працай: займаліся гандлем, езьдзілі чумакаваць за сольлю ў Крым, займаліся рыбным і зьверавым промыслам, некаторыя навет працавалі на ральлі ў сваіх хутарох. Але пацяг да вольнага, бяспрымусовага істнаваньня гнаў іх зноў і з правага і з левала берагу Дняпра ў незаўсёды сытую і добра ўбраную Сечу, каб тут даць волю сваім індывідуальным жаданьням, хоць і былі яны вельмі простыя і задавальняліс гульнёй, добрым таварыствам і першабытным спортам.

* * *

Цяпер істнаваньне такіх рыцарстваў-брацтваў—немагчыма (а шкода!), бо прымусовая партыйна-клясавая гаспадарсьцвеннасьць на ўсё павінна налажыць свой штэмпэль. Дык праявы зьяднаньня вольных адзінак у няпрымусовыя грамады ўсе-ж такі ёсьць у тых кірунках жыцьця, гдзе іх забараніць нельга.

Сучасная каапэрацыя, якая працуе толькі ў эканамічным кірунку, зьяўляецца адным з узораў няпрымусовага аб'яднаньня. Некаторым такое зацьверджаньне можа паказацца сьмешным, калі глянуць на сучасную, тым болей краёвую каапэрацыю, якая ўся ўпэцкалася ў селядцовым сосе і здаецца болей пасьвячыла свае сілы нячыстай спэкуляцыі, чымся ідэі стварэньня вольнай адзінкі ў вольным хаўрусе. Але направер выходзіць, што каапэрацыя — адзінае грамадзянскае зьявішча, якое няпрымусова аб'еднавае сяброў і не дэкляруе прымусу для іншых.

Трэба ад'значыць, што ў каапэрацыі, нягледзячы на яе сур'ёзныя жыцьцёвыя заданьні і вагу, няма нічога падобнага да палітычнай пляцформы. Каапэрацыя ня мае акрэсьленага ідэалу, які мог-бы зрабіцца

суюцца, а замест іх будуць суды дзьвёх інстанцыяў. Узноў уводзіцца суд прысяжных.

*Аўторак*, 5 *ліпня* 1921 *г.*

— Тэлеграмай з Варшавы яшчэ раз падцьвярджаецца, што аканчальнае рашэньне віленскага пытаньня будзе зацьвярджацца Віленскім Соймам.

— Дэпутат Грабскі ўнёс у Польскі Сойм фінансавы праект. Між іншым ён прапануе павялічэньне скарбовых сбораў, новую пазычку на 30 мільярдаў п. мар. і зьмяншэньне ліку вураднікаў.

— Ганна Сэйль назначана віцэміністрам па народнай прасьвеце у Лацьвіі.

— Старшыня ВЦИК-у Калінін, аб'ехаўшы некалькі сярэдня-расейскіх губэрняў піша свайму ўраду, што насяленьне стаіць на краі галоднае сьмерці.

— Бэрлінскі Саюз работнікаў друку 5715 галас. проці 553 выказаўся проці прылучэньня да III інтэрнацыяналу.

— Газ. „Memeler Dampfbote“ вымагае ў сваім артыкуле незалежнасьці Клайпэды (Мэмеля), на правох вольнага гораду.

— Выбары ў новы лацьвійскі Сойм адбудуцца ў сьнежні г. г.

— Абодва турэцкія ўрады — ангорскі і канстантынопальскі, як пішуць, аб'яднаюца.

*Серада*, 6 *ліпня* 1921 *г.*

— Надта даўгая забастоўка вугалевых капальнікаў ў Англіі скончылася зусім спакойна. Можна спадзявацца, што парушаная раўнавага ангельскае прамысловасьці наладзіцца хутка. Але ўгледжваецца неспакой сярод работнікаў фабрычнае прамысловасьці, забастоўка пакуль што яшчэ не пачалася.

— У Чэнстохове адбыўся зьезд партыі Z. L. N. (эндэкаў); прынята шмат рэзалюцыяў, між іншым аб Віленшчыне—зьезд вымагае ад ураду абароны польскіх правоў на Віленшчыну.

— P. P. S. ухваліў рэзалюцыю аб выхадзе партыі з II інтэрнацыяналу, дзеля таго, што ён не аб'яднае ўсіх соцыялістычных партыяў.

*Чацьвер*, 7 *ліпня* 1921 *г.*

— Аскіназі заявіў супрацоўніку аднэй газэты, што проект Гюманса можа быць асновай польска-літоўскіх перагавораў толькі пры ўмове, што дэлегаты Віленшчыны дастануць роўны голас у гэтых перагаворах.

— Газ. „Сегодня“ паведамляе, што на зьезьдзе III інтэрнацыяналу левая група ўзяла верх над партыяй Леніна. Ужо гавораць аб звальненьні Леніна з яго пасадаў.

— У Петраградзе зьезд польскіх камуністых пад кіраўніцтвам Мархлеўскага. Прымаюцца рэзалюцыі аб агітацыі ў Польшчы.

— Бальшавікі ў Сьлезіі арганізуюць чырвоную нямецкую армію.

— Паўстаньне ў В. Сьлезіі ліквідавана аканчальна. Аднак паведамляюць, што угледжываецца неспакой сярод нямецкага насяленьня.

— „Przegl. Wiecz.“ піша, што быццам у колах Лігі Народаў у Жэнэве ўзноў выявілася думка аб вырашэньні Віленскага пытаньня шляхам плебісцыту.



# ПРОВІНЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ.

## Шкада часопісі.

**М-ка Валожын.**

Калі нядаўна я прачытаў у «Н. Д.», што газэта «Беларускі Звон» зачынілася, дык мяне раптам ахапіў вялікі сум. Па маёй думцы, кожная беларуская газэта ёсьць моцная перашкода ўсяму, што нам воража. Кожная беларуская газэта пашырае нашу сьвядомасьць, каб навет хто гэтае сьвядомасьці й не хацеў. Да таго-ж, у „Б. З.“ друкаваліся сцэнічныя творы, якіх у нашым жыцьці, пакуль што, ня надта шмат. Мы павінны моцна шкадаваць, што нашых часопісяў паменшала.

**Дзед Валіла.**

**М. БАРУНЫ**, Ашмян. пав.

Фэст, які адбыўся 29 гэта чэрвеня, прайшоў вельмі ўрачыста. Грамадзянства ўсіх аколічных весак сабралася на сьвятаваньне. Праўда гэта вялікая ўрачыстасьць была пакрыўджана арэштам кс. Пятроўскага, якога тут вельмі шчыра шануюць усе парафіяне. Пасьля набажэнства нейкі панок акружаны жандарам і паліцыяй меў прамову да сялян. Нагаварыў ён шмат добрых слоў—але толькі таго; хаця трэ' прызнацца, што тры чверці усяе яго прамовы былі незразумелыя для сялян беларусаў. Наогул адносіны да паноў прамоўцаў якіх падтрымоўвае жандармэрыя ды паліцыя вельмі цікавыя. Сяляне з кучкі каля трыбуны, гавораць паміж сабой: „чаго гэты паніч дзярэ горла, усё роўна яго ніхто ня слухае, а каб і слухаць, дык гаворыць не панашаму так сама нічога не зразумееш“.

Або: „глядзі нас называюць „obywateliami“, а апошні каптан з плеч дзяруць“. Далей бабы крычаць: „Што нам сунешь „роўны з роўным“, а дзе наш пробашч — у турме—вот дык роўнасьць“. У сярэдзіне прамовы нейкі селянін, якому мабыць абрыдла плявузганьне „прамоўцы“ наехаў з канём і драбінай амаль што не на трыбуну, падняўся гоман, сьмех, жарты, панка забылі, дый ён засароміўся і на нейкі час спыніўся. Прачакаўшы некалікі, зноу узьлез і пачаў, пачаў... Вам дадуць усё! Правы, зямлю—чуць ня зоркі з неба. А калі які-небудзь селянін пачне гаварыць аб сваёй беларускай крыўдзе, дык нейкі „шляхтун-панок“ пачынае цягнуць яго за полы і крычыць «nie przeszkadzaj niech mówi». Зрэшты, частка людзёў разышлася, другая вяла сваю бяседу, і калі прамоўца скончыў, дык адна бабка пачала пляскаць у кацюты, але яё чуць не адлупцавалі свае-ж сяляне, кажучы: дзякаваць Богу скончыў, ну і ліха з ім.

А 6 гадзіне адбыўся у гмаху быўшай беларускай сэмінарыі,—„быўшай“, бо «роўныя з роўнымі» яе *роўна праз поўгода* зачынілі,—спэктакль, дзе вядомы бел. артыст-драматург Аляхновіч, паставіў сваю „Птушку шчасьця“, якая зрабіла вельмі прыемнае ўражаньне на грамадзян. Артысты былі вельмі рады і здаволены да глыбіні душы, добрымі адносінамі да іх людзей, сьвяткаваўшых фэст. Сумна, вельмі сумна было на душы ад таго, што ня было самаго пробашча, які сваей прысутнасьцю даў бы магчымасьць лепей адчувачь сьвята.

**Сякера.**

**ПАЛАЧАНЫ**, Ашмянск. пав.

У канцы сакавіка гэт. году зьявілася да нас „państwowa policja“. Відзіце, без яе ў нашых мясьцох ня было парадку. Ну, і пашлі-ж парадкі! Прыехала іх нямнога, усяго 6, а усюды стала поўна, — і па вёсках і па дарогах. Праўда, крадзеж у гаспадароў ня зьменшылася, але затое арэшты пайшлі, а на дарозе,—што бы ні вёз ці нёс—усеператрасуць і агледзяць. І, мусіць быць, яны патрэбны на сьвеце, бо як у нас даволі, цесна з кватэрамі, яны кватэрантаў іншых профэсыяў,—шаўцоў, вучыцялёў (вядома беларускіх), — ганяюць з кватэр, бо ім трэба з жонкамі памясьціцца. Адным словам, з—за малой навет рэчы, а становіцца цесна жыць на Беларусі.

**Палачанец.**

## З Горадзеншчыны.

**Двор РУДАВА, Горадзенскага павету, Галынскай вол.**

У Рудаве ёсьць праваслаўная цэрква-капліца. Яе паставіў пан гэтага двара для праваслаўных, якія трымаліся свае веры. Гэта было ў той час, калі па Беларусі палякі распаўсюджавалі вунію. І вось палякі, карыстаючыся цемнатою нашых братоў беларусаў і тым, што гэта цэрква стаіць у двары польскага пана, нямаючы ніякіх даных на гэта, — зрабілі каталіцкі касьцёл. У нас каталікоў называюць палякамі, і каталікі думаюць, што яны—палякі, а праваслаўныя, што яны — рускія, толькі выдатных людзей, каторыя працуюць на ніве адраджэньня Беларусі—называюць беларусамі.

**Галынка, Гарадзенскага павету.** Тут ёсьць праваслаўная цэрква, быўшая даўней,—калі была вунія,—вуніяцкаю. І да яе маюц палякі інтэрас. Ім і яна патрэбна. Толькі невядома для каго, бо ў Галынскай воласьці каталікоў зусім мала. Паміж іншым да праваслаўных належыць усё насяленьне гэтае воласьці, бо з вуніяцтва пад царскім рэжымам усе перайшлі у праваслаўе. Хіба толькі для птушак, але ім нятрэба касьцёла, дый яшчэ перарobленага з цэрквы. Такія падзеі нарабілі вялікіх забурэньняў паміж сялянамі. Сварaць нашых братоў беларусаў, каб яны ад злосьці непазналі—хто яны.

**М. Крынкі, Гарадзенскага павету.** Палякі не дазваляюць залажыць беларускі каапэратыў. Па ініцыятыве Гурта Беларускай Моладзі ў Крынках, было прыступлена да закладу беларускага каапэратыва. Дзеля гэтага быў пасланы адзін сябра з статутамі да павятовага старасты ў м. Горадзен. Стараста зацьвердзіў статут і аддаў яго зацьверджаным назад. Дазваленьне абяцаў прыслаць і не даўжэй як праз 10 дзён. Пачакаўшы цэлы месяц і не адтрымаўшы ніякіх вестак, давялося зноў ехаць за дазваленьнем. Стараста сказаў, што ён цяпер ня можа выдаць дазваленыя, трэба пачакаць. Няма ведама, на каго пан павятовы стараста чакае.

**Сымон Зяблік.**

## Школьнэя палітыка.

**(М-ка Валожын).**

Нарэшце ўсе-ж такі прыехаў школьны інспэктар Лідзкага і Валожынскага паветаў у м-ка Валожына для выплаты пэнсіі вучыцялём за красавік, май і чэрвень месяцы. Даведаўшыся аб тым, што прыехау інспэктар, усе вучыцялі пацяґнуліся да

---

Малохам каапэрацыйнага руху, вымагаючым чалавечых ахвяр. Рух каапэрацыі кіруецца выняткова жыцьцёвымі заданьнямі, і ніякай папярэдняй ідэёвасьці ў ім няма. Былі спробы ў гэтым кірунку; каб стварыць каапэрацыйны ідэал, як скончыліcь яны няўдачаю. Перад істнуючымі ідэаламі — буржуазным і соцыялістычным, каапэрацыя ў сваёй цэласьці галавы ня схіляе. Рух соцыялістычнай каапэрацыі, дзе яна падпарадкоўваецца марксіцкаму ідэалу, толькі вынятак, які яшчэ больш падкрэсьлівае агульнае правіла.

Каапэрацыя ня кажа: „я маю гатовую праўду: прыходзь і бяры“, яна толькі кажа: „твары — „творачы — руйнуем“. У каапэрацыі няма гатовых шаблёнаў, штампаў на кожны выпадак жыцьця; калі такія штампы зьяўляюцца, жыцьцё іх выкідае вельмі лёгка, без рэвалюцыяў, за вакно.

У сваім аб'яднаньні асоб, каапэрацыя не застаецца абавязковай: калі табе па дарозе, ідзі разам, а не—ідзі, куды хочаш. Жыцьцё так вяліка і яшчэ незразумела, што ня можа быць штампаваных, для ўсіх абавязковых, шляхоў.

Каапэрацыя ня мае гатовых рэцэптаў паляпшэньня жыцьця. Маючы вялікія эканамічныя заданьні, яна ведае, што сваімі каапэратывамі не замесьціць усяго гандлю і вытвару. Калі ёсьць незразумелыя тэорэтыкі (Шарль Жыд), што кажуць, быццам каапэрацыя захопіць усю эканамічную справу ў свае рукі, дык сапраўдная каапэрацыя адказвае яму: „дурны хлопец, ці можна жыцьцю прадмаўляць гатовыя шляхі“.

Але пэўна, што праўдзівы жыцьцёвы кірунак—той, якім ідзе каапэрацыя.

* * *

Пэўна, што выпрашэньне будучыны— ў зьніштажэньні прымусу, ў аб'яднаньні ўсяго грамадзянства для задаваленьня яго патрэб ў такія грамады, якія падобны да сучасных каапэратываў. Кожны павінен быць вольны ў сваіх жаданьнях. Ніякіх прымусовых ахвяр, ніякіх багоў не павінна быць. Вытвар, гандаль, прасьвета, гаспадарчыя патрэбы задавальняюцца вольнымі аб'яднаньнямі спажыўцаў і вытворцаў.

Гэта цяпер здаецца дзіўным і немагчымым, але жыцьцё кіруецца на гэты шлях. Мы надта здэморалізованы прымусам, што ня можам адразу стаць вольнымі, навет марыць аб гэтым. Але галоўнае жаданьне чалавека, гэта — жаданьне быць вольным, быць творцам свайго жыцьця.

Тыя перашкоды, што здаюцца нязломнымі, ўпадуць разам з прымусам. Такія забабоны, як прыватная ўласьнасьць, якая становіць камень датыканьня буржуазных і соцыялістычных вучэньняў, яны згінуць, як туман перад сонцам, калі згіне прымус, калі запануе вольная творчая асоба. Прымусам не абараніць прыватнай ўласнасьці і ня зьнішчыць яе. Добры прыклад зноў— Расея. Тамака зьнішчана ня толькі ўласнасьць на нярухомасьць, а немаль і самая нярухомасьць, затое ўласнасьць на рухомыя рэчы яшчэ павялічылася. Ні ў аднэй старонцы жыцьцё чалавека не раўняецца некалькім фунтам хлеба, а ў Расеі гэта—факт.

Адсутнасьць прымусу павінна пранікнуць увесь грамадзкі быт: палітычны, эканамічны, маральны бакі жыцьця, бо толькі з гэтай умовай знойдзе свой выраз творчасьць як асобы, так і соцыяльнага цэлага. У гэтым—наша надзея, ў гэтым нагад на прадсьвет, і запраўдны жыцьцёвы напрамак.

Не адразу ўсяго дасягнуць. Не адразу выхаваць творчую адзінку. Будучына належыць да творчай асобы, але яшчэ доўгія гады „мертвыя будуць хаваць сваіх мерцьвякоў“. І нечалавечы ўціск, і неміласэрныя рэвалюцыі, і паўстаньні павінна яшчэ пераносьці чалавецтва. Тое, што істнуе цяпер: прымусовае гаспадарства, урады, цьвёрды закон, турма, кара — ёсьць вынік чалавечай, грамадзянскай нятворчасьці. Гэта ўсе згіне не пад прымусам, ня будзе зруйнована сілай, а будзе зруйнована далейшай чалавечай творчасьцю. Бо калі сілай зьнішчыць істнуючы парадак, дык нятворчасьць сучаснай чалавечай масы створыць сабе назаўтра яшчэ горшыя кайданы, турмы і пыткі. Такі досьлед усіх рэвалюцыяў старажытнасьці і сучаснасьці.

Тыя погляды, якія тут выяўлены, шмат каму пакажацца анархізмам. Ад гэтага шыльду, як ад кожнае іншае вызначаючае формы, трэба адмовіцца, бо ён мае ўжо свой перакручаны жыцьцёвы зьмест, і заместа развагі лепей прытачыць для зьясьненьня такую расейскую частушку.

„Анархистик утащил
„Полушубок тёткин,
„Ах, тому ль его учил
„Господин Крапоткин?“..

Гэтыя эскізы мелі на мэце не правядзеньне якіх небудзь групавых поглядаў, а выяўленьне той сутнасьці жыцьця, якая істнавала ад самага пачатку чалавецтва і рабіла спробы зрэалізавацца у розных кірунках: эльлінскай культуры, хрысьціянсьцьве, гуманізьме, ў дэмакратычным і соцыялістычным рухах, паміж іншым і ў анархізьме, покуль усе гэтыя рухі не зьмярцьвіла застылая форма. На шляху чалавечай творчасьці вырастала перашкода ў постаці хочучай валадаць формы. І форма захапляла жыцьцё, дыктавала свае ўмовы. А чалавечая душа рвалася з яе кайданоў хацела спарадкаваць жыцьцё так, як казала ўласнае сумленьне, хацелаісьці за сваімі ўласным, імкненьнямі чула, што гэта—непатрэбна „зьвязаваць ярма цяжкія і незнасімыя і ўскладаць на плечы людзям“. І ўцякала ад гвялцячага жыцьця, шукала свайго ратунку.

І, як вызваленьне, яшчэ на зары чалавецтва, загучэлі чароўныя вечна-прыгожыя, вечна-жывыя словы Бога аднаўленьня, Бога ўваскрасеньня:

„Прыходзьце да Мяне ўсе стружаныя і пакрыўджаныя і я супакою вас. Бярэце ярмо маё на сябе і навучэцесь ад мяне; бо я — сьціплы і сьмірны сэрцам, і знойдзеце спакой душам вашым. Бо ярмо маё—добра, і цяжар мой лёгкі“.

Так ў глыбіне вякоў знайшло свой выраз імкненьне заравой чалавечай душы ісьці ўласным шляхам да боскае творчасці, скінуўшы ланцугі тугі і пакуты. І цяпер прабуджаныя да творчасьці народныя масы, чуючы ў сабе прысутнасьць творчай Міравой душы, з пэўнасьцю кажуць: „творачы— зруйнуем“.

**Ігнат Абдзіраловіч.**

(К а н е ц).

12, V, 21.
Вільня.

яго пагрошы і наагул даведацца аб школьнай справе. Як ніколі ня бывала, у м-ку Валожыне, па цяперашнім часе, сабралася вельмі шмат інтэлігэнцыі, што складалася з беларускіх і польскіх вучыцялёў і вучыцелек. Усе здаволены прыездам інспэктара, весела пахаджаваюць па м-ку і знаёмяцца паміж сабой. Усе наагуль вядуць гутарку аб школьнах справах.

Адна польская вучыцелька, Бог яе ведае якой яна валасьці, задумала трошкі пасьмяяцца з беларускае мовы, але цікава, сама вельмі добра гамоніць пабеларуску, і іншыя ў гутарцы кажуць „ваша“ школа „наша“ школа, а яна заўсёды кажа „беларуская“ школа, „польская“ школа. Дык вось яна й кажа: «Калі-ж беларускі язык такі брыдкаваты»... Усе вучыцялі і вучыцелькі як беларускія, так і польскія пачуўшы такія словы, зьвярнулі на яе ўвагу. Беларускі вучыцель Валожынскае валасьці, які стаяў насупроціў яе, папытаўся: „А чым-жа ён брыдкі?“

— «Ды як-жа, — кажа яна, — напрыклад у беларускіх кніжках напісана: варона села на плоце і г-р-а-г-а-е». Іншыя польскія вучыцялі пачалі сьмяяцца, але ў хуткім часе іх сьмех быў уняты словамі гэтага беларускага вучыцеля: „Ну добра, кажа ён, а як папольску будзе: варона курняўкае?“ Тут яшчэ болей сьмеху знайшлося. «Не, — кажа, — гэта вучыцелка, папольску будзе: варона „krzyczy“. «Дык няўжо-ж палякі далі вароне такую ўладу, што яна можа крычаць на іх», сказаў вучыцель. Вучыцелька нямела чаго зразу сказаць на гэта і відаць паглядам прасіла помачы ў сваіх сяброў. Але тут знайшоўся адзін беларускі вучыцель, які прамовіў: „Грамадзяне, нашто нам сьмяяцца з беларускага ды польскага языкоў, мы ўсе павінны згадзіцца з тым, што для кожнага беларуса ёсць найхарашэйшы язык беларускі, а для паляка—польскі; як у прыказцы сказана: „для каго дзіця крыва, а для бацькі і маткі яно міла“, жыве народ няхай жыве яго і мова! Вось мой лёзунг“. „Праўда, праўда“ падтрымавалі яго беларускія і іншыя польскія вучыцялі. Нешта яшчэ хацеў сказаць гэты вучыцель аб Беларусі, але тут зьявіўся другі беларускі вучыцель, які дастаў ужо грошы ад інспэктара. Усе раптам яго абступілі і зусіх бакоў засыпалі пытаньнямі, якую ён меў гутарку з інспэктарам і ці ласкава ён зварачуе да беларусаў. На апошняе пытаньне гэты вучыцель адказаў: „А, братцы, гэта вам не з ашмянскім інспэктарам, што прыйшоў, павітаўся па сяброўску, сеў пагаварыў што трэба па свойму, дастаў грошы дый з Богам; а тут бачыце, стой пад дзьвярыма, а увайшоўшы да яго абы чаго не кажы, дый пабеларуску і разумець няхоча“. „Во як!“ прамовіла некалькі галасоў.

— „Ну а ўсё ж такі, што ён табе сказаў“, папытаўся нехта збоку. „Што-ж сказаў! сказаў каб у беларускіх школах вучыць польскую мову, дык дзеля гэтага трэба ехаць у Кракаў на курсы на цэлы год“. — „Ну добра, кажа адзін вучыцель, вучыць польскую мову ў школе гэта трэба, але чаго-ж нам у Кракаў ехаць. Калі нам у Вільні на беларускіх курсах будуць выкладаць польскую мову, і мы можым навучыцца?“

— «Дык бачыце, якая тут справа; ім беларускія школы надта не дасмаку, а зачыніць іх, на аснове справядлівасьці яны, ня могуць, дык вось яны і прыдумалі; усіх няскончыўшых вучыцельскай сэмінарыі звольнім, як не выкваліфікаваных, а выкваліфікаваных пашлём у Кракаў, і значыц, само сабой разумеецца, што беларускія школы запоўняцца польскімі вучыцялямі, альбо і саўсім зачыняцца. Далей, калі мы дамо згоду ехаць у Кракаў, дык напэўна мы ужо ня вернемся ў сваю школу, а нас прымусяць працаваць у польскай школе, гдзе колек пад Кракавам ці пад Варшавай. Але ведаеце, за гэта ён абяцае нам залатыя горы; кажа, што і самі будзеце даставаць вялікую пэнсію і сям'я так сама. Але як мне здаецца дык ня знойдзецца такіх, каб за маркі прадалі сваю нацыю і культуру».—«Дык ён-жа казаў, што ў Валожыне будуць польскія курсы, нашто-ж ён гоне ў Кракаў?» — сказала беларуская вучыцелька“. „Дык бачыце“, кажа гэты вучыцель, у Валожыне будуць курсы толькі для польскіх вучыцялёў, якія ў школе ня будуць вучыць беларускае мовы, дый няскажуць дзяцям, што тут жывуць беларусы, а ўсё будуць тлумачыць як дзяцям, так і грамадзянам, што тут павінна быць Польшча, а яны добра разумеюць, што мы, беларускія вучыцялі як раз будзем тлумачыць усім што, тут жыве беларускі народ, вось за што ён нас і гоніць да Кракава“. На гэта з усіх бакоў пачулася: „Едзем у Вільню, няма дурняў, каб нас за маркі купляць!“ І сапраўды, ўсе беларускія вучыцялі едуць на курсы ў Вільню.

**Беларускі вучыцель.**

---

## Дзьвінскае жыцьцё.

(*Ад нашага карэспадэнта*).

Хто ведаў і бачыў Дзьвінск да вайны і хто ўбачыць яго цяперака — не пазнаець гэтага места.

У пачатку 1914 году жыло тутака 110.000 жыхароў; стаяў гарнізон салдатаў ў 20.000 чалавек; працавала два тэатры і пяць кінематографаў; было шмат тартакоў, сернічных заводаў і гарбарняў, бравароў, млыноў, шкляны і іголачны аграмадныя заводы; стукалі машыны некалькіх друкарняў, выпускаючы „Двинскій Листокъ“, „Двинскій Огонекъ“ і яшчэ нейкую газэтку; дрыжэла зямля ад цяжкіх удараў вялікага молата ў чыгуначных майстэрнях, якія абслужвалі ўсю Рыга-Арлоўскую чыгунку і налічвалі каля сваіх станкоў некалькі сот работнікаў.

А ўвечары запальваліся па ўсіх вуліцах ніткі вялікіх і малых электрычных ліхтароў, ліўся з вокнаў магазынаў вясёлы белы свет і грымеў — зімой на коўзалцы, а летам ў сквэры — добры аркестар духавой музыкі.

Натоўпы моладзі шумна і весела таўкліся на «Неўскім» (адзін з кварталаў Аляксандра-Неўскай вуліцы, ў самым цэнтры гораду), або спацыравалі па рэдкае красы дамбе, насыпанай па беразе Дзьвіны і абсаджанай высачэннымі топалямі.

«Неўскі» найбольш шумеў зімой.

«Дамба» была чорная ад народу вясной і летам, калі глядзелі, як ідзе лёд, або да позьняй ночы слухалі, як ідуць у Рыгу доўгія плыты беларускага лесу і скрыпяць «дрыгалкі» ў руках дужага беларуса-палачаніна, або вітэбчука.

Праз кожныя 30—40 мінут рэзаў і рваў паветра сьвісток паравозу, і жалезны конь, неперастаючы цягнуў даўгі рад цяжка набітых таварамі вагонаў. На многа вёрст ў гару і ўніз грымеў пад іх жвавымі коламі харошы жалезны мост праз Дзвіну.

Сёнека не пазнаеце Дьзвінску.

Семь гадоў, год-у-год дзень-ў-дзень, нішчылі яго каму ахвота.

Пачалося з таго, што ў 1914 годзе, з пачатку мабілізацыі, панаганялі ў яго некалькі дзесяткаў тысяч коняў, якія пасьмецілі ўсе падворкі, вуліцы, сады і паабгрызалі платы і дрэвы, да якіх іх прывязавалі.

Лепшае месца ў горадзе вялікі і цяністы Мікалаеўскі парк,—на другі год ужо не зазелянеў—засох.

У 1915 годзе пачалося „бежанства“.

Ўвесь горад быў разбураны й вывезены.

1917, 1918 і 1919 гады грабілі яго бальшавікі, руйнавалі немцы і палякі.

Сёнека ў ім усяго 15 — 18 тысячаў жыхароў.

80% ўсіх жылых будынкаў разбураны. Лепшыя, калісь, ў горадзе будоўлі стаяць бяз вокнаў і дзвярэй, або і зусім зьнішчаны.

Палова вуліц і тратувараў зарасла высокай зялёнай травіцай, бо няма па іх таго руху, што калісьці быў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў той часьці гораду, што бліжэй да Дзьвіны, а найбольш у, так званым, „Гайку“. Тамака навет пыльны, ўтоптаны салдацкімі ботамі пляц і той буйна зазелянеў.

Зелянееець трава і па стрэхах дамоў і ў скляпох, асьветленых сонцам праз прабітыя куты, і на падворках казармаў.

Страшэнна пацярпеў Дзьвінск ад польскай артылерыі, што біла яго з другога берагу Дзьвіны, ад Калкун. Нямаль што ня ўсе будынкі на беразе Дьзвіны і блізка ад яго раскалочаны. Найбольш дасталося «жыдоўскім» фабрыкам і заводам. Нейкім незразумелым «цудам» засталіся цэлымі вялікія будынкі графа Моль і другіх палякоў-памешчыкаў.

Лясы вакол Дзьвінску на дсесяткі вёрст—вырублены.

По горадзе гуляе пыл.

Дзьвіна зусім абмялела.

На ёй—ні платоў, ні параходаў.

Мост—узарваны.

Замест фабрыкаў—груды цэглы, заросшае травою.

З цэлага раду тартакоў працуе толькі адзін, дый той вельмі слаба.

Затое шмат каля Дзьвінску могілак.

Правільнымі доўгімі радкамі па вялікіх кавалках зямлі цягнуцца крыжы вайсковых могілак.

Крыжы, крыжыкі і крыжы...

А колькі іх ляжыць бяз крыжоў?

Ці не на „заклятым“ месцы пабудаваны гэты горад?

Колькі раз, ў розныя вякі, лілася па ім чалавечая кроў, вырасталі горы трупаў і насыпаліся доўгія рады магілаў.

Пасьля вялікіх пажараў борзда нанова адбудоваваўся Дзьвінск і рабіўся, навет, прыгажэйшым, бо раўняў вуліцы і ставіў лепшыя будынкі.

Пасьля гэтага разгрому, які цягнуўся 7 гадоў, не загаіць яму сваіх ранаў і ў паўвеку, бо кожны год руйнаваньня патрабуе 10 гадоў адбудоўлі.

* * *

У зруйнаваным горадзе—зруйнаванае і жыцьцё.

Найчысьленьнейшая частка дзьвінскага жыхарства — жыды, ўсё яшчэ ня могуць адбудаваць (ды, праўду кажучы, і не бяруцца за гэту справу) старую прамысловасьць. Жывуць яны дробнаю спэкуляцыяй, дробным гандлем і падрадамі, ды дапамогай сваякоў і розьных арганізацыяў з Амэрыкі. Найбольш заможныя—даўно кінулі Дзьвінск і выехалі ў Рыгу, дзе больш карысьці, дый жыцьцё прыемней.

Быўшыя «гаспадары», расейцы, чуюць сябе вельмі кепска, бо ня знаюць мовы і ня маюць магчымасьці займаць старых чыноўніцкіх пасадаў, на якіх яны добра, ў сваім часе, зараблялі дый вялікай пашанай карысталіся. Займаюцца яны цяпер чым удасца, перабіваюцца як мага, страшэнна бедныя на грошы. Але ўсё-ж такі латыскай мове нявучацца, а калі вучацца, дык вельмі неахвотна, і ўсё марацьі гадаюць аб «лепшых днях», г. з. аб звароце да сваіх старых становішчаў.

Сучасныя гаспадары краю латышы, як могуць і як дазваляюць варункі і фінансы гаспадарства, працуюць над адбудовай краю. Мабілізаваны ўсе сілы, але ўсё-ж такі іх мала, каб падняць тое, што руйнавалася гадамі і сотнямі тысячаў грубых ботаў. Таму і ацэнку працы гэтай пакуль што і зарана, дый немагчыма, зрабіць.

Тутэйшыя палякі ўсе ня могуць кінуць салодкай думкі аб граніцах 1772 году і аб Латгаліі, як „Inflantach Polskich“, ў гэтых межах. І, залежна ад удачаў польскіх, то яны падымаюць галовы, то спушчаюць насы, забягаюць ў вочы і заіграваюць з Уладай. Працы над абпалячаваньнем несьвядомых каталікоў латгальцаў і беларусаў — ня кідаюць да гэтага часу, адчыняючы тайныя і яўныя польскія школы, высыпаючы на агітацыю шалёныя грошы і распаўсюджаваючы польскую агітацыйную літэратуру.

Беларусы толькі-толькі ўзяліся за нацыянальную працу і не пасьпелі, пакуль што, яшчэ шмат чаго зрабіць, але нацыянальнае усьведамленьне і арганізацыйная праца ідуць добра. Лік сяброў Т-ва «Бацькаўшчына» пашыраецца з кожным днём. Павялічваецца і лік падпісчыкаў і чытачоў «Нашай Думкі» і «Кгупісу». Чытаюць і „Беларускі Звон», але пахіл, або-як тутака кажуць—«крэн», гэтай газэты ў польскі бок усім страшэнна не падабаецца.

**Кін.**

---

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Ў Нацыян. Камітэце.**

*1. Запрос.*

На апошнім пасяджэньні Вілен. Белар. Нац. Камітэту быў зроблены запрос, ці вядома Прэзыдзіуму Камітэту, што ў Ашмянскім павеце нядаўна было збройнае выступленьне народу проці жандармэрыі й паліцыі, пры усьмірэньні якога было, як заднэй, так і з другой стараны шмат забітых і раненых і каля 80 чалавек арыштована. Юрыдычны Аддзел Камітэту заявіў, што афіцыяльных вестак аб гэтым Камітэт ня мае, ёсьць толькі чуткі, якія будуць праверaны і ўся справа будзе выясьнена.

*2. Пратэст.*

(Паседжаньне 4 ліпня 1921 г.).

26 мінулага чэрвеня ў м. Барунах, Ашмянскага павету быў арыштованы па распараджэньню Польскае улады Сярэдняй Лігвы мясцовы пробашч кс. М. Пятроўскі,—па нацыянальнасьці беларус,— і вывезены ў Лукішскі астрог у Вільні. Арыштованага вінавацяць у агітацыі проці пануючага ладу.

Віленскаму Беларус. Нацыян. Камітэту чыннасьць кс. Пятроўскага вядома, як пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод каталікоў-беларусаў яго парафіі, а гэта не прадугледжана законам, як праступак. Нарэшце,—арышт ужываецца кожнаю ўладаю толькі проціў тых асоб, якія могуць мець замеры ўхіліцца ад суду і кары, аб чым ніяк ня мог думаць ксёндз, прымацованы да сваіх парафіян абавязкамі свае місіі.

Віленскі Беларус. Нацыян. Камітэт заяўляе свой энэргічны пратэст проці арышту паважанага ўсім бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці насяленьнем духоўніка толькі за тое, што ён беларус і адкрыта да гэтага прызнаецца. Сама мера, ўжытая польскімі ўладамі проці кс. Пятроўскага носіць чыста палітычны характар з мэтаю тэрору проціў беларускага насяленьня і нязгодна з практыкаю заходня-эўропэйскага ладу, перавышаючы сабою прыёмы быўшага царскага самаўладзтва і бяспраўя.

---

**Сярод дзеячоў.**

— Вядомы белар. дзеяч і пісьменьнік Ант. Луцкевіч досіць моцна захварэў.

— Старшыня Віленскага Саюзу капэратываў беларускі дзеяч п. Трэпка некалькі тыдняў таму назад выехаў ў Варшаву.

— Старшыня Віл. Белар. Нац. Камітэту грам. Ярэміч дастаў одпуск на 1½ месяца. На першыя два тыдні ён выехаў гэтак сама ў Варшаву.

— Сэкрэтар Рады Бел. Нар. Рэсп. адзін з лідэраў партыі беларускіх эс-эраў грам. Язэп Мамонька гэтымі днямі быў у Вільні і адсюль скіраваўся ў Коўна. Я Мамонька ўцёк з Казанскай (татарскай) рэспублікі, куды быў высланы бальшавікамі пасьля таго, як яны мусялі звольніць яго з Бутырскага вастрогу ў Маскве, дзе Мамонька будучы арыштованым без абвінавачаньня, абвясьціў галадоўлю і прагаладаваў 11 дзён.

— Пан. П. Аляксюк выпушчаны палякамі з-пад арышту і ўжо вярнуўся з Варшавы ў Вільню.

---

## Адкрыты паход проці „Нашай Думкі“.

Рэдакцыя адтрымала гэткія дакумэнты:

**1. Копія тайнага распараджэньня.**

Starostwo
WILEJSKIE
IV rejon.
14 czerwca 1921 r.
№ 21|p.

Poufne.

Do Kierownika Oddziału
Pocztowego w Kościeniewiczah.

W myśl rozporządzenia Województwa, polecam nadchodzące białoruskie czasopismo „Nasza Dumka“ odsyłać do mego rejonu.

Naczelnik rejonu (подпіс).

**2. ПІСЬМО З АШМЯНЫ.**

28. VI. у Кнігарні паручнікам Жандармэрыі сканфіскавана 45 № газэты „Наша Думка“. Даю знаць да ведама, можа будзе якая рада. Наагул цяжка—баюся хадзіць у Ашмяну, зьбіраюць на мяне многа, але хаця, каб нажаць жыта на хлеб сям'і, а там няхай садзяць.

30. 6. 21. Ашмяна. **Тарчэўскі.**

3.

Dowodztwo
I Plutonu Żand. Pol.
27 Szwad.
w Oszmianie.

Oszmiana 22. VI. 21 roku.

Pokwitowanie.

Kwituje odbior 35 gazet od Tarczewskiego Jana.

Szereg. żand.
(Подпіс нячытальны).

---

**...а вучыцельскіх курсах.**

Лік слухачоў на беларускіх вучыцельскіх курсах кожны дзень павялічваецца і ўжо перавышае 200 асобаў.

### Выпуск у Віленскай Беларускай Гімназіі.

14 чэрвеня скончыліся экзамены ў 8-ай клясе Віленскай Беларускай гімназіі, а 25 чэрвеня ў залі гімназіі адбыўся выпускны акт-вечар.

Гімназію скончылі з атэстатам сьпеласьці беларусы і беларускі: 1) Аляксяюк Валярыян, 2) Арсеньнева Натальля, 3) Бонч-Асмалоўская Галіна, 4) Бонч-Асмалоўскі Багдан, 5) Акушка Вольга, 6) Валадзімірская Ганна, 7) Васільлева Марыя, 8) Клімовіч Адольф, 9) Лабуць Ганна, 10) Леткевіч Мікола, 11) Макоўская Ліда, 12) Нядзьвецкая Клаўдзыя, 13) Пусько Аляксандар, 14) Сасноўскі Аляксандар і два экстэрны: 15) Дварчанін Ігнат і 16) Станкевіч Янка.

Скончылі гімназію і яшчэ 25 чалавек небеларусаў.

Акт адкрыўся прамоваю дырэктара гімназіі М. Кахановіча, пасьля каторага сказалі прамовы яшчэ: старшыня бацькоўскага камітэту гімназіі п. Акушка і вучыцелі А. Луцкевіч і М. Гарэцкі.

Пасьля прамоў дырэктар, у прысутнасьці усіх пэдагогаў гімназіі і сабраўшайся на акт радні і знаёмых матурыстаў, раздаў матурыстам атэстаты.

Пасьля пярэрвы распачаўся вечар, які працягнуўся далёка за поўнач.

## З беларускага жыцьця у Коуні.

### СЬМЕРЦЬ ЛЯТУНА-БЕЛАРУСА.

(*Ад ковенскага карэспандэнта*).

15 чэрвеня 1921 г. ў Коўні разьбіўся насьмерць вайсковы лятун капітан Капутоўскі. - Нябошчыку толькі што споўнілася 26 гадоў. Родам ён з м. Вільні, гімназію скончыў у Смаленску, вучыўся ў інж.-тэхн. школе ў Петраградзе, але ў час вайны паступіў у Гатчынскую авіяцыйную школу, скончыў яе і быў назначаны ў XIX паветр. дывізіён, якім камандаваў сучасны польны гэтман Літвы гэн.-лейт. Краўцэвіч. Адтуль ў 1916 годзе Капутоўскі быў пераведзены на пасаду камандзера V паветр. аддзелу. Пры бальшавікох ўцёк да Крыму і служыў у Дэнікіна лятуном, адтуль быў эвакуаваны на выспу Лемнос і ў 1920 годзе прыехаў да Літвы, дзе і паступіў ахвотнікам у паветр. эскадрыльлю. У няшчасны дзеля яго дзень ён разам з мэханікам латышом Вацетам на вышыні каля 4 кілемэтраў рабіў „мёртвыя петлі“ на самалёце над Ковенскім аэрадромам; у маторы нешта сапсавалася, і адважных лятуноў ня стала.

На урачыстым пахаваньні капітана Капутоўскага 17 чэрвеня на праваслаўных магілках гаварылі прамовы міністар абароны праф. Шымкус, яго таварыш маёр Біла, гэтман польны гэн.-лейт. Краўцэвіч і прадстаўнік ковенскіх беларускіх арганізацыяў грам. Галэвінскі.

**Алесь Смаленец.**

20. 6. 1921 г. Коўна.

## Памяці таварыша.

### (на 2-ія угодкі сьмерці).

7 ліпня 1919 г. ўсё літоўскае войска перайшло ў агульны наступ проці маскоўцаў, што трымаліся яшчэ на літоўскай зямлі.

Сярод іншых вайсковых часткаў была на фронце і 1-ая беларуская асобная пешая кампанія пад камандай маёра Ружанцова, на яе долю пры наступе дастаўся цяжкі кавалак фронту — усьцяж чыгункі Дынабург—Панявеж.

З пазаранку 8 ліпня беларусы ўцягнуліся у бойку з ворагам каля двару Анэнгоф, дзе маскоўцы сядзелі ў вокопах і прыстасаваных да абароны будоўлях.

І ў гэтую цудоўную летнюю раніцу першая Беларуская ваяцкая кроў абліла асьмяглую літоўскую зямлю на мяжы Літвы і Латвіі: быў забіты на сьмерць варожай куляй малады шэрэнговы Казьмер Патаковіч.

З самага пачатку фармаваньня беларускіх часткаў ў Коўні (з 27 лютага 1919 г.) Патаковіч, малады 19-гадовы хлапец з беларусаў-каталікоў Ковеншчыны, прыйшоў да Ковенскага Беларускага вайсковага бюро і паступіў да кампаніі.

Прад гэтым апошнім дзеля яго боем, ён браў удзел у абароні ад маскоўцаў Літвы на так званай вазёрной дзялянцы і у разьведках.

Яшчэ ў час бойкі санітары кампаніі выцягнулі яго цела і пахавалі на стараверскіх (маскальскіх) могілках пры вёсцы Шпулі (каля ст. Елоўкі).

Часу было мала, маскоўцы ўцякалі да Дзьвіны, дык і палажылі дарагога нябошчыка бяз труны на пасьцель з зялёных лісьцяў і гэтымі-ж зялёнымі лісьцямі засыпалі.

„Сьпі, таварыш, ў мягкай ложы,
Заўтра ўбачымся, быць можа!...“.

**Алесь Смаленец.**

## Спатканьне Купалы у Коуні.

Амаль, што ня ўся Коўна выйшла у гэтым годзе на свае горы і ўзгоркі спаткаць Купалу ў ноч з 23 на 24 чэрвеня.

І беларуская колёнія ў Коўні так сама спаткала Купалу.

На гары Вітаўта на самай краіні месца зыйшліся тыя беларусы, каго доля закінула ў Літву.

Проста і радасна было. Хоць на некалькі гадзін спачылі ад дзеннае працы. Казалі прамовы п. п. Ластоўскі, Крачэўскі, Галавінскі, Грыб, Душэўскі і інш.

І да ўсходу Сонца каля купальскага вогнішча чутны былі родныя песьні і мова...:

## Весткі з Савецкай Беларусі.

### Вечар беларускай песьні.

У нядзелю 29 траўня, на туэку ў Менску адбыўся «вечар беларускай песьні». Хорам т. Тэраўскага было прапяяна да дзесяцёх нумароў, падзеленых на дзьве часткі, у сярэдзіне якіх ішла дэклямацыя вершаў і чытаньне куплетаў. У першай частцы вечару хорам, як лепш ня трэба, сьпяяны падабраныя па сэнсу й духу адна к другой шэсьць сем песьняў, паложаных на музыку Тэраўскім, як „Гімн мастацтву“, „Працуй беларус“, „Песьня беларуса“, „Чырвоны штандар“, „Ваяцкі марш“ і інш. Некаторыя з іх сваёю мэлёдычнасьцю й прыгожай гарманіяй, добра завучанай хорам, рабілі глыбокі ўплыў. У асобку добра прасьпяваны быў „Чырвоны штандар“.

З вершаў артыстамі беларускай дзяржаўнай трупы Дольскім, Бяздольным і Ждановічам былі прадэклямаваны вершы Янкі Купалы «Град», «Прарок» і інш. і Альбэрта Паўловіча «Ракі» і інш. Яшчэ дэклямаваў маленькі дзесяцгадовы хлопчык Лявонка вершы Я. Купалы „Развейся туман“ і „Што мне трэба“. Купляціст Цьвяткевіч сваімі куплетамі на сучасны момант, добра й здольна напісанымі ім самім, абурыў публіку.

У другой частцы песьняў хор Тэраўскага прапяяў цуг народных песьняў, з якіх вельмі ўпадабаліся ўсім „Юрка“ й вядомая кожнаму „Бульба“. З новых песьняў хор сьпяяў верш Кудзелькі і інш. Вечар кончыўся пеяньнем „Беларускай Марсэльезы“ і пакінуў пасьля сабе найлепшае ўражаньне. Месца трэку ў зеляні й на сьвежым паветры прыдавала паэтычны дапасоўны „вечару песьняў“ колёрыт. Геткіх бы вечароў паболей, ды не для трэкавай публікі, а для рабочых, чырвонаармейцаў і бедных насельнікаў гарадзкіх ускраін.

Усяго маленькі недастатак быў у тым, што з прадэклямаваных вершаў і з куплетаў некаторыя к сучаснаму момэнту ўжо застарэлі, хоць моцны й крэпкі. Так сама блага, што вечар зацёгся сваім адчыненьнем аж да 12 гадзіны й гэтым знэрваваў і ўтаміў публіку, ня могшую сядзець на трэку з 8 да 2 гадзіны. Надалей гэта трэба абмінаць. Наогул нельга не падзякаваць загадчыку аддзелам мастацва сябру Фальскаму за яго ініцыятыву й уменьне як і чым найлепей і розьней паказаць ўсе бакі маладога народнага беларускага мастацтва.

**З. Ж.**

### Штраф Артысткі.

(*Барысаў*).

Артыстка Выгоцкая за няяўку на спэктакль на фабрыку „Беразіна“ аштрафована на 10.000 рублёў.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Не адмоўце, пане Р—ру, запытацца праз паваж. „Н. Д.“:

Ці ня ведама каму, дзе находіцца магіла песьняра Лявона Гмырака, забітага ў 1915 годзе пад Коўнай?

Калі не, дык прашу ўказаць дату яго сьмерці, вайсковую часьць, дзе ён служыў, і хоць прыблізна месца, дзе ён быў забіты.

Служачы ў Ковеншчыне, хацеў-бы падчас одпуску расшукаць яго магілку.

З павагай
**Алесь Смаленец.**

Коўна, 20 чэрвеня 1921 г.

## Абвешчаньне

### Пракурорскага Ураду пры Акружным Судзе ў Вільні.

На моцы прыгавару Над'звычайнага Суда Віленскага Судебнага Вокругу ад 2 ліпня 1921 г. засуджаны на **кару сьмерці праз расстрэл** жыхар вёскі Родзехув, Опатоўскага пав., Радомскай зямлі, Браніслаў, сын Андрэя, **Лаппо**, 24 г., жыхар Хлявіскае гміны, Радомскай зямлі, Станіслаў, Язэпаў сын, **Грушчынскі**, 22 г. і жыхар м. Ліды Костусь, сын Пётры, **Кандрацкі**, 30 г. за забіцьце з мэтаю зыску Ільдэнфонса **Маркевіча** ў Сангялоўшчыне, Мала-Салячніцкіцкай вол., Віленскага пав. (арт. 51 і 455 Уст. Карн. Код.). Кара, вызначаная Станіславу Грушчынскаму й Костусю Кандрацкаму, Галоўнакамандуючы войск Сярэдняе Літвы ў парадку літасьці зьмяніў на 15 гадоў цяжкага астрогу, прыгавар над Браніславам **Лаппо** быў споўнены 4 ліпня бяг. году а $6\frac{1}{2}$ г. раніцаю ў Вільні.

**Пракурср Акружнага Суда.**



## Паштовая скрынка.

*Майору Ружанцову, Коўна.* Лепей: „баявая дзялянка“. „Жаўнерня“—даволі добра. Матар'ялы, якія прышлеце, прымем з ахвотаю.

*Г. Ляўковічу.* Газэты высылаем; творы прысылайце па адрэсе рэдакцыі.

*Вяршыніну ў Празе.* „Н. Д.“ пасылаецца Вам і Бубешцы ўвесь час. Прасімыя нумары дасылаем. Пажадана адтрымаць грошы; высылайце грашовым лістом на адрэс рэдакцыі.

*Клагішу ў Латвіі.* Заграніцу „Н. Д.“ каштуе на 3 мес. 250 пол. марак, або 15 нямецкіх марак. Кніжкі выслаць магчыма, але ўперад трэба прыслаць за іх грошы, бо кнігарня дарма не дае.

*Шнаркевічу.* Газэта пасылаецца Вам увесь час, чаму не даходзіць ня ведаем.

## Віленская біржа (гельда).

6 ліпня (іюля) 1921 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Доляры | | 1500 | „ |
| Франкі | | 135 | „ |
| Немецк. маркі | (1000) | 22 | „ |
| Осты | (1000) | 21 | „ |
| 10 руб. золатам | | 7100 | „ |
| 1 „ серабр. | | 300 | „ |

Пачатковыя школы, бібліатэкі, чытальні, могуць палучаць „Нашу Думку“ **ДАРМА**, выслаўшы толькі грошы на перасылку газэты, (24 маркі ў 3 месяцы).

Усіх паважаных грамадзян войтаў і солтысаў, якім пасылаецца „Наша Думка“, просім прысылаць нам адрасы сялян, якія таксама хочуць палучаць газэту.

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні» Вільня, Завальная 7.

**Францішк Аляховіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.





Рэдактар і выдавец А. Кабычкін.

Друкарня Віленскага Выдавецтва Б. А. Клецкіна.